# Са 115 краінамі

Да вайны буржуазна-памешчыцкая Польшча была сыравінным прыдаткам вялікіх капіталістычных дзяржаў. Асноўнымі артыкуламі яе экспарту былі сельскагаспадарчая сыравіна і паўфабрыкаты. Амаль не было такіх прамысловых вырабаў, якія яна магла б вывозіць за граніцу. Цяпер замежны гандаль адыгрывае важную і ўсё ўзрастаючую ролю ва ўсёй эканоміцы краіны. Шырокая індустрыялізацыя, стварэнне зусім новых галін прамысловай вытворчасці дазволілі карэнным чынам змяніць структуру замежнага гандлю Польшчы, павялічыць вываз за граніцу гатовых прамысловых вырабаў і нават комплекснага прамысловага абсталявання.

Народная Польшча з кожным годам расшырае свой замежны тавараабмен. У мінулым годзе яна падтрымлівала гандлёвыя адносіны са 115 краінамі. Гадавы тавараабарот замежнага гандлю склаў амаль 9 мільярдаў рублёў. У гэтым годзе знешнегандлёвыя сувязі Польшчы з іншымі краінамі яшчэ больш умацаваліся і расшырыліся. Асноўнымі партнёрамі польскага замежнага гандлю з'яўляюцца краіны сацыялістычнага лагера, доля якіх перавышае 60 працэнтаў агульнага тавараабароту. Польшча мае з усімі краінамі сацыялізма доўгатэрміновыя гандлёвыя пагадненні, а таксама пагадненні аб эканамічным супрацоўніцтве, разлічаныя на тры і больш год.

Вядучае месца ў замежным гандлі Польшчы займае Савецкі Саюз, доля ўдзелу якога складае каля 30 працэнтаў усяго знешняга тавараабароту. Амаль трох мільярдаў рублёў дасягне ў гэтым годзе польска - савецкі тавараабмен. Гандаль і эканамічнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і Савецкім Саюзам ажыццяўляюцца на аснове доўгатэрміновых эканамічных пагадненняў, а таксама штогодніх гандлёвых дагавораў. Савецкі Саюз пастаўляе Польшчы комплекснае прамысловае абсталяванне для важнейшых польскіх будоўляў сацыялізма. Савецкімі машынамі і абсталяваннем аснашчаюцца такія гіганты сучаснай індустрыі, як металургічныя камбінаты імя Леніна ў Новай Гуце і імя Баляслава Берута ў Чэнстахове, металургічны завод якасных сталей «Варшава», хімічны камбінат у Асвянціме, многія цеплавыя электрастанцыі і іншыя прамысловыя аб'екты. Каля 60 ключавых будоўляў цяперашняй Польшчы атрымліваюць машыны і комплекснае абсталяванне з Савецкага Саюза. СССР пастаўляе таксама Польшчы жалезную руду, нафтапрадукты, марганцавую руду, каляровыя металы, бавоўну і іншую сыравіну, неабходную для польскай прамысловасці, якая бурна развіваецца.

Народная Польшча, у сваю чаргу, вывозіць у Савецкі Саюз гандлёвыя і рыбалоўныя судны, чыгуначны рухомы састаў, станкі, прадукты хіміі, тэкстыль і іншыя тавары. У апошні час Польшча пачала экспартаваць у Савецкі Саюз комплекснае абсталяванне, у тым ліку абсталяванне для шасці заводаў па вырабу порыстага бетону, а таксама абсталяванне цукровых заводаў. На працягу ўсіх пасляваенных год Савецкі Саюз займаў і цяпер займае першае месца ў замежным гандлі Польшчы як у экспарце, так і ў імпарце.

Няспынна расшыраецца польска - кітайскае эканамічнае і гандлёвае супрацоўніцтва. За гады існавання Кітайскай Народнай Рэспублікі польска - кітайскі тавараабарот узрос больш чым у 12 разоў і дасягнуў у мінулым годзе амаль 330 мільёнаў рублёў.

Важную ролю ў замежным гандлі Польшчы адыгрываюць яе суседзі — Германская Дэмакратычная Рэспубліка і Чэхаславакія. Яны займаюць адпаведна другое і трэцяе месца ў знешнегандлёвым балансе народнай Польшчы.

Умацоўваюцца гандлёвыя адносіны паміж Польшчай і Румыніяй, Венгрыяй, Балгарыяй і іншымі брацкімі сацыялістычнымі рэспублікамі.

У апошнія гады Польшча значна расшырыла свае гандлёвыя кантакты таксама з краінамі Заходняй Еўропы, Блізкага і Сярэдняга Усходу, Паўднёва-Усходняй Азіі.



*На здымку: прывезеныя з Іспаніі лімоны, выгружаюцца ў порце — Гданск пры дапамозе пад'емных кранаў.* *ЦАФ. фота — Уклеўскі*

*Дырэктывы XII Пленума ЦК ПАРП*

## Дырэктыўныя ўказанні палітыкі партыі ў вёсцы

XII Пленум ЦК ПАРП, распрацоўваючы дырэктывы плана развіцця сельскай гаспадаркі, высунуў цэлы шэраг указанняў палітыкі партыі ў вёсцы. Правільныя палітычныя ўказанні неабходны перш за ўсё для таго, каб усе сяляне ведалі палітыку партыі, а таксама для таго, каб нанесці ўдар усім ворагам сацыялізма, якія выдумваюць розныя «тэорыі» і плёткі з прычыны палітыкі партыі па сялянскаму пытанню.

Перш за ўсё, і гэта з'ўляецца галоўным, каб сельская гаспадарка магла добра развівацца ў нашай краіне, каб можна было паспяхова будаваць сацыялізм, неабходна ўмацоўваць саюз паміж рабочым класам і працоўным сялянствам. Гэта тым больш важна, што ў нашай краіне 47 прац. усяго насельніцтва з'яўляецца сялянамі.

Сутнасць палітыкі партыі ў вёсцы заключаецца ў тым, каб як мага павялічваць вытворчасць сельскагаспадарчых прадуктаў пры адначасовым абмежаванні эксплуатацыі, якая існуе яшчэ ў вёсцы.

Партыя будзе праводзіць перабудову вёскі на сацыялістычны шлях. Аднак гэта перабудова павінна выцякаць з патрэб саміх сялян, з іх дапамогай. Калектывізацыя вёскі ні ў якім выпадку не можа адбіцца на паніжэнні сельскагаспадарчай вытворчасці.

Партыя адкідае і будзе адкідаць далей капітулянцкія тэорыі аб «сталым суіснаванні» сацыялістычнага сектара ў горадзе і дробнабуржуазнага ў вёсцы, ці тэорыі аб «сталым суіснаванні» сацыялістычнага і капіталістычнага напрамкаў у развіцці вёскі.

Важнай асновай узаемаадносін паміж рабочым класам і працоўным сялянствам з'яўляецца ў сучасны момант эканамічная сувязь паміж сацыялістычнай прамысловасцю і дробнабуржуазнай у асноўным сельскай гаспадаркай. Гэта сувязь ажыццяўляецца шляхам гандлю, які кантралюецца дзяржавай і з'яўляецца новым тыпам адносін паміж горадам і вёскай. Партыя і далей будзе імкнуцца да правільнага развіцця гэтых адносін. У сувязі з гэтым партыя ідзе ў напрамку абмежавання абавязковых паставак з вёскі. З цягам часу абавязковыя пастаўкі будуць ліквідаваны.

У сучасны момант, указваецца ў Дырэктывах, у вёсцы існуюць яшчэ розныя гаспадаркі, вялікія і малыя, адбываецца працэс драблення гаспадарак. Каб ліквідаваць гэты працэс, неабходна перасяленне часткі сялян у горад і забеспячэнне іх працай у прамысловасці. Гэты натуральны працэс будзе адбывацца і далей, па меры развіцця прамысловасці. Толькі калектывізацыя вёскі зможа цалкам прадухіліць драбленне гаспадарак. Ужо ў сучасны момант партыя падтрымлівае ўсе віды калектыўнай працы ў вёсцы. Кааператыўныя аб'яднанні, якія ствараюцца ў сучасны момант у вёсцы, з'яўляецца ступенню да рэалізацыі праграмнай задачы партыі — да перабудовы сельскай гаспадаркі, да пераводу яе на сацыялістычны шлях.

Каб перавесці сельскую гаспадарку на сацыялістычны шлях развіцця, неабходна даць ёй большую колькасць сельскагаспадарчых машын, угнаенняў і г. д. Гэта можна будзе зрабіць пры ўмове далейшага развіцця прамысловасці.

Дырэктывы палітыкі партыі ў вёсцы з'яўляюцца яшчэ адным звяном у пабудове сацыялізма не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы.

У. Л.

*(Працяг будзе)*



*У Новым Таргу пастаянна арганізуюцца выстаўкі, на якіх сяляне паказваюць сваіх выгадаваных авечак і абменьваюцца вопытам.*

# Праграма далейшага развіцця СССР

У студзені 1959 года адбудзецца XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які зацвердзіць план далейшага развіцця СССР на 1959 — 1965 г. г.

У сувязі з гэтым у савецкім друку апублікаваны тэзісы даклада М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе. У тэзісах да шырокага абмеркавання пададзены галоўныя паказчыкі развіцця народнай гаспадаркі краіны. У тэзісах гаворыцца аб тым, што галоўнай задачай перыяда 1959 — 1965 гадоў з'яўляецца ўсебаковае будаўніцтва матэрыяльна - тэхнічнай базы камунізма, далейшае ўмацаванне эканамічнай і абароннай магутнасці краіны, а таксама больш поўнае задавальненне матэрыяльных і духоўных патрэб народа.

Паказчыкі развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959 — 1965 гады, з'яўляючыся часткай перспектыўнага плана (перспектыўны план развіцця СССР разлічан на 15 год), могуць быць выкананы ва ўмовах мірнага суіснавання народаў, ва ўмовах спынення гонкі ўзбраенняў і ваенных авантур, якія заўсёды распачынаюць імперыялістычныя краіны.

У тэзісах указваецца, што на працягу сямігадовага плана развіцця СССР валавая вытворчасць прамысловасці павялічыцца прыблізна на 80 прац. у параўнанні з 1958 годам (вытворчасць сродкаў вытворчасці павялічыцца на 85 — 88 прац.); вытворчасць спажывецкіх тавараў павялічыцца на 62 — 65 прац. Вытворчасць сталі дасягне ў 1965 годзе 86 — 91 мільёнаў тон (56 — 65 прац. больш чым у 1958 годзе), пракату — 65 — 70 мільёнаў тон (52 — 64 прац. больш чым у 1958 годзе), здабыча нафты — 230 — 240 мільёнаў тон (у два разы больш чым ў 1958 г.).

Асаблівая ўвага прысвячаецца развіццю хімічнай прамысловасці, якая ў сучасны момант набывае велізарнае значэнне. Дастаткова сказаць, што вырабы хімічнай прамысловасці могуць быць ужыты і ў быту, і ў цяжкай прамысловасці, і ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Валавая вытворчасць лёгкай прамысловасці павялічыцца на працягу сямігадовага плана прыблізна ў 1,5 раза. Гэта дазволіць наблізіцца да вытворчасці лёгкай прамысловасці ў ЗША на душу насельніцтва.

Вытворчасць галоўных прадуктавых тавараў на адзінку насельніцтва павялічыцца настолькі, што можна будзе не толькі дагнаць, але і перагнаць самыя развітыя капіталістычныя краіны.

На працягу 1959 — 1965 г. г. будзе бурна развівацца сельская гаспадарка СССР, вытворчасць якой павялічыцца ў параўнанні з 1958 годам прыблізна ў 1,7 раза. На працягу сямі год сельская гаспадарка атрымае звыш 1 мільёна трактараў, каля 400 тысяч камбайнаў і цэлы шэраг іншых машын.

Планы далейшага развіцця СССР накіраваны перш за ўсё на паляпшэнне жыццёвага ўзроўню працоўных. У тэзісах М. С. Хрушчова ўказваецца, што рэальныя даходы рабочых і працоўнай інтэлігенцыі ўзрастуць на 40 працэнтаў, а калгаснікаў — мінімум на 40 прац.

Да 1962 года рабочы дзень будзе скарочаны да 40 гадзін у тыдзень. У сувязі з гэтым працоўны тыдзень будзе скарочан да 5 дзён, замест шасці ў сучасны момант. Такім чынам, рабочыя і працоўная інтэлігенцыя атрымаюць 2 дні ў тыдзень зусім вольныя ад працы. Увядзенне ўпершыню ў свеце пяцідзённага рабочага тыдня ў СССР з'явіцца яшчэ адным буйным крокам па шляху да камунізма (увядзенне пяцідзённага рабочага тыдня будзе звязана з захаваннем папярэдняй зарплаты). Акрамя таго, на працягу 1959 — 1965 гадоў будзе пабудавана 15 мільёнаў кватэр, г. зн. у 2,3 разы больш чым у прошлы сямігадовы перыяд.

У тэзісах вялікая ўвага звяртаецца на далейшае развіццё аховы здароўя, асветы, культуры і г. д.

У выніку выканання сямігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі ў СССР першая ў свеце краіна сацыялізма стане яшчэ больш магутнай і квітнеючай краінай.

У. ЛЕБЯДЗІНСКІ

# Там дзе нараджаецца ЧАЛАВЕК

Памятаю, як мне маці расказвала, што калі я прыходзіў на свет (а гэта было некалькі добрых год таму назад), то гэтая, так сказаць, урачыстасць, значыцца, маё нараджэнне, адбывалася ў вясковай хаце, у прысутнасці старых цётак, ну, і, зразумела, (без яе нельга было абыйсціся) так званай бабкі, якая, так як і ўсе ёй падобныя спецыялісткі, выконвала ролю акушэркі. Кожнага нованароджанага чалавека прымала ў свае, не заўсёды чыстыя, рукі.

Але з таго часу шмат чаго змянілася на свеце. Змяніліся і ўмовы, у якіх нараджаюцца дзеці.

Сёння жанчыны прызвычаіліся радзіць у радзільных дамах.

Невялічкая шыльда: «Радзільны дом у Нарве». Я, крыху збянтэжаны, ўваходжу ў чысты калідор. Спяшаюся растлумачыць медсёстрам, што я не ў сувязі з нарадзінамі, а за матэрыялам для «Нівы».

Тут я даведаўся, што радзільны дом у Нарве існуе ўжо 5 год. У гэтым годзе нарадзілася тут 110 новых грамадзян. Часта малалыя маткі прыходзяць за парадамі ў розных справах. Медсёстры дазволілі мне зайсці ў адну з залаў раддома. Бель, чысціня і цішыня...

Тамара Харкевіч і Люцына Котвіч маладыя маткі і ўпершыню радзілі. Колькі радасці ў іх з-за гэтых першых дзяцей!

Старыя бабкі адгаварвалі, каб не йшлі яны ў радзільны дом, што павінны радзіць у хаце, у прысутнасці сваіх блізкіх і бабкі.

Аднак Т. Харкевіч і Л. Котвіч не паслухалі, паехалі ў раддом і зусім аб гэтым не шкадуюць. Я здзівіўся, што маткі ляжаць без дзяцей. Медсёстры зараз жа вядуць мяне ў невялічкі пакойчык з маленькімі, як для лялек, ложачкамі. У пасцельнай белі відаць ружовенькія тварыкі нованароджэнцаў. Тут заўсёды адпаведная тэмпература, вільготнасць паветра, дагляд.

Калі я выходзіў з радзільнага дома, мне так хацелася нарадзіцца яшчэ раз, цяпер, у такіх умовах, якія існуюць сёння.

Тэкст і фота — а. а.



*У маленькіх белых ложачках ляжаць нованараджэнцы. Імі выдатна апякуецца медыцынская служба.*



*Тамара Харкевіч і Люцына Котвіч нарадзіліся ў вясковых хатах — іх прымалі бабкі. Сваіх першых дзяцей яны нарадзілі ў новым радзільным доме пад адпаведнай медыцынскай апекай.*

З жыцця моладзі

## А ці вы горшыя?

У вёсцы Шчыты - Дзенцялова ёсць арганізацыя ЛПЖ. Аб гэтым мы ўжо ў свой час пісалі ў «Ніве». Моладзь з вёскі Крывая, што непадалёку Шчытоў, бачыла, як працуе там ЛПЖ.

— Ці мы горшыя, не зможам арганізавацца так, як яны? — гаварылі яны між сабою.

Не! Моладзь з Крывой аказалася не горшай.

У вёсцы Крывая ў ЛПЖ запісалася 33 асобы. Старшынёю арганізацыі выбран былы палафіцэр Сцяпан Сахарчук.

Распачаліся заняткі. Сахарчук гаварыў аб супрацьпаветранай і атамнай абароне, арганізаваў курс стралкоў. Моладзь вельмі цікавіцца рознымі справамі, звязанымі з вайсковай падрыхтоўкай. Зараз ЛПЖ у Крывой імкнецца арганізаваць узвод тэхнічна - вайсковай падрыхтоўкі.

*

У гэтым годзе на курсах, арганізаваных Павятовым Праўленнем ЛПЖ у Бельску - Падляскім абвучалася 91 юнакоў і дзяўчат, а 58 яшчэ абучаюцца.

Курсы па супрацьпаветранай і атамнай абароне закончыла 182 асобы. Курсы язды на матацыкле — 165 асоб, а 36 яшчэ абвучаецца. У бліжэйшы час ЛПЖ арганізуе фехтавальную (шэрмерчую) секцыю. Ужо ёсць патрэбныя прылады і абсталяванні.

Хлопцы і дзяўчаты! Маеце вольны час? Не маеш работы пасля абеду? — Запішыся на курсы ЛПЖ, убачыш, варта. (аа)

## Развіццё прамысловасці Беласточчыны

Гады фашысцкай акупацыі і ваенныя дзеянні зусім разбурылі і так адсталую за часы санацыі прамысловасць Беласточчыны. Аб знішчэнні прамысловасці ў той перыяд сведчыць факт, што пасля вызвалення ў 1944 годзе на разбураных прадпрыемствах Беласточчыны працавала ўсяго толькі 690 рабочых.

На працягу 14 год народнай улады на Беласточчыне адбудавана знішчаных і пабудавана новых 50 вялікіх і сярэдніх прадпрыемстваў. Зараз працуе на іх звыш 40 тысяч рабочых. Асноўнай прамысловасцю цяпер тут з'яўляецца баваўняная і металаапрацоўчая прамысловасць. Такія прадпрыемствы Беласточчыны, як баваўняныя камбінаты ў Фастах і Замбраве, фабрыка прылад і шрубстакоў у Беластоку, металаапрацоўчая фабрыка ў Чарновсі, пабудаваныя ў гады народнай ўлады, вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі.

Апрача прадпрыемстваў з галіны асноўнай прамысловасці на Беласточчыне існуе 587 прадпрыемстваў у галіне дробнай прамысловасці, на якіх працуе звыш 15 тысяч рабочых. Добра таксама развіваецца рамесніцтва на Беласточчыне. Існуе тут 500 усялякіх рамесніцкіх майстэрняў.

У бліжэйшыя гады намечана далейшае буйнае развіццё прамысловасці Беласточчыны. У гадах 1959—65 на прадпрыемствах з асноўнай галіны прамысловасці атрымае працу далейшых 15 тысяч рабочых. У гэтыя ж гады закончыцца пабудова баваўняных камбінатаў у Фастах і Замбраве, пабудуецца прадпрыемства мясных вырабаў і цеплаэлектрастанцыя магутнасцю 100 МВ у Беластоку. Разбудуецца прадпрыемства лясной прамысловасці ў Гайнаўцы і Аўгустове, а таксама прадпрыемства пабудовы абсталяванняў ляснога транспарту ў Гайнаўцы. Пабудуецца фабрыка цукру ў Лапах і крахмальная ў Ломжы.

У гадах 1959—65 не меншае развіццё наступіць і ў галіне дробнай прамысловасці. Калі ў 1957 годзе вартасць прадукцыі прадпрыемстваў з гэтай галіны прамысловасці складала лік 1.013,5 мільёнаў злотых, то ў 1965 годзе вартасць яе складзе лік 2.204 мільёнаў злотых, а лік рабочых, працуючых на гэтых прадпрыемствах, узрасце да 22.300 асоб.

Буйнае развіццё прамысловасці з кожным годам змяняе аблічча некалі зусім адсталай Беласточчыны. І хаця на Беласточчыне і ў далейшым будзе значная перавага сельскагаспадарчай вытворчасці, усё ж-такі прамысловасць Беласточчыны дае не малы ўклад у агульнанародны даход.

(вб)

А АМІЛЬЯНОВІЧ

8)

# КАЛІНОЎШЧЫКІ

Штодзень ва ўсе напрамкі ішлі партызанскія патрулі для выканання даверанага задання. Адны падтрымлівалі сувязь з сеткай сувязных, другія прыносілі амуніцыю і праводзілі назіранні за рухам немцаў па шашы, а яшчэ іншыя патрулі рыхтавалі і праводзілі дыверсіі, якія, вядома, не заўсёды ўдаваліся.

Пасля некалькіх дзён знаходжання ў атрадзе Яроцкі, Жорка Навасёлаў і яшчэ адзін партызан рушылі на новае заданне. Трэба было яшчэ раз паспрабаваць падарваць поезд і ў вёсцы Дзернякова навязаць кантакт з Аляксандрам Храноўскім (псеўданім «Шурка»). Меў ён дзве схаваныя 10-стрэльныя вінтоўкі, якія трэба было захапіць у атрад. Па дарозе ўзялі схаваную раней міну і накіраваліся ў Дзернякова. «Шурка» дастаў з-пад фундамента школы схаваныя там вінтоўкі і перадаў некалькі інфармацый са сваёй вёскі. Вельмі хацелася яму пайсці ў партызанскі атрад разам з патрулём. Меў аднак заданне заставацца на месцы.

У Дзернякове «Шурка» жыў разам з маткаю. Яго бацьку, Сцяпана, фашысты расстралялі за сувязь з партызанамі яшчэ вясною 1942 года; брат Міхась (псеўданім «Цішка») загінуў у атрадзе ранняй восенню 1943 года. Гаротную маці і сына не спалохала ўсё гэта. Хаця і прайшлі яны жудасныя катаванні ў гестапа, аднак усёроўна ўтрымлівалі сувязь з партызанамі, дастаўлялі харчы, амуніцыю і зброю.

Пасля стаянкі, праведзенай непадалёку ад Дзернякова, ноччу Яроцкі з Навасёлавым і трэцім таварышам пракраліся да чыгункі каля станцыі Саколе. Варты не было відаць. Якраз набліжаўся эшалон. Рэйкі былі замініраваны. На гэты раз усё адбылося шчасліва. Выбух ускалыхнуў паветра. Па пушчы паняслося рэха ламаючыхся вагонаў. Паравоз павалі зваліўся пад адхон. Амаль цэлыя суткі немцы расчышчалі заваленую чыгунку. Рух на ўсход быў спынены.

У атрад вярнуліся шчасліва.

Камандзіру атрада імя Кастуся Каліноўскага Аляксею Карпюку нехапала часу на адпачынак. Арганізоўваў дзейнасць так, каб нанесці акупанту як найбольш удараў. У атрадзе пастаянна знаходзіўся таксама і Кастусь Карповіч, які выконваў абавязкі камісара. Начальнік штаба Дзімітр Карповіч яшчэ жыў у сваёй роднай вёсцы. У сваім атрадзе Карповіч бываў вельмі часта. Перадаваў важныя звесткі ад сувязных, дапамагаў апрацоўваць баявыя аперацыі; радзіў — дзе, каго і адкуль трэба забраць у партызанскі атрад, каму пагражае арышт. Так, напрыклад, у жандармерыі ў Гарадку ўдалося даведацца, што будуць арыштаваны бацькі Аляксея Карпюка з Страшава. Гэтая вестка, хутка пераданая ў атрад, дазволіла забраць у лес Марыю і Нікіфара Карпюкоў і, такім чынам, уратаваць ад жудасцей гестапаўскага следства. Нікіфар Карпюк не гледзячы на свае 50 год, застаўся ў атрадзе пад камандаваннем свайго сына.

На ўсходзе Савецкая Армія вялікімі баямі наступала наперад па ўсяму фронту. Генерал-маёр «Капуста» — камандзір беластоцкага партызанскага злучэння, якому была падпарадкавана і брыгада імя Кастуся Каліноўскага, пераслаў загад узмоцніць дыверсійную дзейнасць. Патрэбна было часцей узрываць паязды, атакаваць нямецкія калоны па шасэ і гасцінцах, знішчаць сувязь і дапамагаць цывільнаму насельніцтву ў выпадку пагрозы небяспекі з боку акупантаў.

Партызаны добра разумелі важнасць моманту. Усе падпарадкаваныя падпалкоўніку Вайцехоўскаму партызанскія атрады днём і ноччу ішлі на баявыя заданні. Усё часцей ляцелі пад адхон варожыя эшалоны, знішчаліся тэлефонныя лініі. Асноўнай перашкодай у разгортванні дыверсійнай дзейнасці з'яўляўся недахоп выбуховых матэрыялаў.

Атрады, якія дзейнічалі ў раёне Беластока не мелі дапамогі і забеспячэння. Партызанскае злучэнне генерала «Капусты» атрымлівала амуніцыю і зброю з самалётаў, але да ліпічанскіх лясоў было вельмі цяжка дабрацца. Па дарогах адбываўся інтэнсіўны рух нямецкіх транспартаў і калон, вёскі былі перапоўнены гітлераўскай салдатнёю.

Немцы вельмі пільна сачылі за падазронымі. Рабілі мноства засад, узмацнялі тэрор. Усё-такі не давала ім гэта спадзяваных вынікаў. Дыверсійная дзейнасць партызан выразна набывала размах. Камандаванне атрада імя Кастуся Каліноўскага штодзень высылала людзей на баявыя заданні. Збірала ад сувязных інфармацыі, вербавала для супрацоўніцтва новых людзей, прымала ў атрады дабраахвотнікаў.

17 чэрвеня 1944 года Дзімітр Карповіч даставіў у атрад тры добра навостраныя пілы і некалькі сякер. Вечарам Карпюк узяў з сабою Кастуся Карповіча, Яроцкага Любу і яшчэ семярых партызан. Уся група накіравалася ў бок шасэ Беласток - Ваўкавыск. На саракавым кіламетры ад Беластока, двое засела ў дазоры, а рэшта партызан, закінуўшы за плечы вінтоўкі, прыступіла да спілоўвання тэлефонных слупаў адной з галоўных ліній усход - захад. Спілаваныя слупы, падаючы рвалі драты. Карпюк і Карповіч сякерамі разбівалі ізалятары. Работа адбывалася хутка, партызаны апераджалі адзін другога. Праз гадзіну было ўжо спілавана амаль 2 кіламетры лініі. Сувязь на доўгі час была

